Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 45 Серада, 19-га Лістапада 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4.
(Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз.
Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр.; у тэксьце — 10 гр.; на апош. стар. — 5 гр.

## Сьмешна й балюча.

Улетку гэтага году пачаўся нейкі пералом у польскіх кіраўнічых сфэрах. Пасьпешна і проста прайшлі цераз законадаўчыя палаты Рэспублікі тры законы аб правох беларусаў, ліцьвіноў і украінцаў карыстацца сваею роднаю моваю ў судох, у адміністрацыйных установах і ў школах.

Вельмі зразумела, што гэта ўсё спарадзіла ў шырокіх кругох насяленьня нашых няшчасных *Крэсаў* пэўны оптымізм, даўшы надзею, што, нарэшце, пачне ўлівацца хоць кропля „сонца і ў нашае ваконца“.

Дзеля таго, што новыя законы маюць сілу аж з 1-га мінулага кастрычніка, загадзя паўставала надзея на тое, што ў сёлетнім школьным годзе пачнуць паўставаць да жыцьця беларускія школы па вёсках і сёлах, якія дасюль безрэзультатна гэтага дамагаліся.

Праўда, што прыкрыя падзеі ў постаці шалёнага, інсьпіраванага звонку, бандытызму адцягвалі вочы ўрадовых сфэраў ад спакайнейшых задачаў унутранага жыцьця.

Але-ж пры цьвёрдым жаданьні праводзіць рэформы, хапіла-б сілы на тое, каб гэта зрабіць.

Замест жывога дзела, даўно йдуць гутаркі аб віцэ-міністры па справах акраін, бываюць нарады акраінных ваяводаў у Варшаве, чуваць аб нейкіх асаблівых поўнамоцтвах для нашых ваяводаў, аб рэконструкцыі кабінэту і інш. А оптымізм глухіх *крэсовых* куткоў пакрысе пачынае слабець, гледзячы на тое, што дзеецца навокал панурых хацінак беларускае вёскі.

Мы друкуем сягоньня голас расчараванае душы з Нясьвіскага павету Наваградчыны, і робіцца неяк маркотна, калі ўдумацца ў простыя словы няхітрае сялянскае натуры, якая разважае над досіць скомплікованымі пытаньнямі пасвойму, проста, мацаючы іх і пераконваючыся ў тым, што дасюль ніякіх рэальных зьменаў не адчуваецца.

Гутаркі аб увядзеньні вынятковага стану на *Крэсах* здаюцца сьмешнымі, проста дзеля таго, што ў некаторых мясьцінах вулічны рух ужо цяпер фактычна забаронены пасьля 9 гадзіны ўвечары.

Справа родных школаў сапраўды яшчэ толькі ў працэсе нейкіх гутарак, проектаў, меркаваньняў. І справа гэтая ня так напраўду й простая, як можа думаць беларускі селянін з глухое провінцыі.

Каб закласьці школы, дык патрэбны настаўнікі. Яны й ёсьць, але гэта людзі старое расейскае фармацыі і дзеля адтрыманьня імі працы патрэбна ім польская кваліфікацыя!

Хто-ж падумаў калі-нібудзь аб гэтым? Ці-ж ёсьць сэмінарыі, адкуль выйдуць патрэбныя настаўнікі? Ці ёсьць хоць якія-нібудзь курсы, каб надаць гатовым ужо настаўнікам старое школы патрэбную веду з паляністыкі?

Можна нанізаць яшчэ цэлы рад падобных пытаньняў і тут-жа паставіць нэгатыўны адказ на кожнае з іх.

А раптам паўстае і паважнейшае пытаньне датычна школьнае справы наагул: ці для *польскіх* школаў хапае кваліфікованых настаўнікаў у даны момэнт, ці сярод настаўнікаў польскіх школаў не здараюцца людзі проста малаграматныя папольску?

Калі *усе* польскія настаўнікі маюць пажаданую і патрэбную, павадлуг духу адпаведных законаў, кваліфікацыю дык чаму гэта чуваць з нашых вёсак галасы аб тым, што настаўнікі гэтыя за якіх-нібудзь дзьве зімы ня ўмеюць, часамі, навучыць дзяцей чытаць, пісаць ды лічыць прапарцыянальна тэй меры, як гэта навет і ў даўнейшыя часы нашае нацыянальнае няволі было магчыма.

Пэўна-ж, Кракаў ня раптам збудавалі, нельга адным махам паставіць на належную вышыню і школаў. Настаўніцтва новае, настаўніцтва, патрэбнае інтарэсам новае дзяржаўнасьці з часам можа вытварыцца, але ніколі ў нашым краі ня вытварыцца яно прывозам з Пазнані або Галічыны. Калі ў справе беларускае школы нічога рабіцца ня будзе, дык сама сабою гэтая справа ня вырашыцца, а будзе яшчэ горш і больш заблутвацца.

Здаецца рэч гэта такая простая, што яе разумець можна бяз ніякага мазгавога напружаньня. Дык чаго-ж яна прамаруджваецца?

Сьмешна й балюча робіцца ад таго, што першы крок на новым шляху польскае палітыкі ў нацыянальным пытаньні выглядае гэткім марудным, гэткім праз меру цяжкім.

Ці-ж крок гэты вымагае нейкае асаблівае адвагі, нейкіх бесканечных падгатовак?

Напэўна — не! І чым раней ён быў-бы зроблены, тым лепшы выйшаў-бы й рэзультат.

## Палітычны агляд.

Пачаўшаяся ў Аўстрыі агульная жалезнадарожніцкая забастоўка йзноў прыпомніла сьвету аб істнаваньні 7-мільённага краю, які два гады назад лічыўся зусім гінуўшым і які праз адзін год, дзякуючы працы цяперашняга канцлера Зэйпэля, цудоўна аздаравеў і зусім яго не пазнаць. Аўстрыя пасьля вайны апынулася ў выключна трудным палажэньні. Пасьля ўтварэньня Польшчы, Італіі, Вэнгрыі, Юга-Славіі зрабіўшыся з 56 мільённай Аўстра-Вэнгерскай монархіі маленечкай 7 мільённай дзяржавай з ранейшай вялікай сталіцай Венай, Аўстрыя напамінае сабой карліка з вялікай галавой. Маленечкая Аўстрыя, пазбавіўшыся ранейшых вялізных тэрыторыяў, павінна была захаваць усе цэнтральныя дзяржаўныя ўстановы з усей арміяй ранейшых вураднікаў. якія забіралі апошнія грашовыя магчымасьці краю. А звальняючы вураднікаў і працаўнікоў, павялічвалася-б армія безработных, пагражаўшых спакою краю. Дзеля гэтага палажэньне рабілася крытычным. Уся эўропэйская прэса была перапоўнена трывожнымі весткамі аб страшэнна бязвыхадным палажэньні краю з найпрыгажэйшым эўропэйскім горадам Венай, якая, як збанкрутаваўшы арыстакрат, прадавала апошнія свае дарагія рэчы, зьбіраўшыяся вякамі, як гобэленаўскія дываны, музэйныя рэдкасьці, дарагія галерэі абразоў ды інш. Аўстрыйская крона была ўтраціўшы ўсялякую цэннасьць. Грошай за граніцай нельга было дастаць ні за што. Пры гэткім палажэньні краю, заняў пост аўстрыйскага канцлера(прэм'ера)ксёндз-пралат Зэйпэль.

Заняўшы адказнае палажэньне ў гэткі крытычны мамэнт, канцлер Зэйпэль раней чым рабіць нейкія ўнутраныя рэформы, якія лічыў зусім бескарыснымі без матар'яльнай падмогі звонку, зьвярнуўся ў гэтай справе да Лігі Народаў. Апошняя спачула яго палажэньню і ў кастрычніку 1922 г. між Аўстрыяй з аднаго боку і Англіяй, Францыяй, Італіяй і Чэха-Славакіяй — з другога былі падпісаны тры пратаколы дагавору, ведамыя пад назовай Жэнэўскай конвэнцыі. Да гэтых чатырох дзяржаваў пасьля далучылася Бэльгія, Швайцарыя, Гішпанія, Данія, Голяндыя і Нарвэгія. На аснове гэтай конвэнцыі, Аўстрыя адтрымала ад успамянутых дзяржаваў доўгасрочны крэдыт у ліку 650 мільёнаў залат. кронаў. Гэтае здарэньне й было пачаткам эканамічнага і фінансавага аздараўленьня Аўстрыі.

Гэткім чынам, жэнэўская конвэнцыя ёсьць дагавор групы дзяржаваў з Аўстрыяй, згодна з якім першыя прыймаюць на сябе абавязак гарантаваць доўгасрочную пазыку ў суме 650 міль. зал. кронаў, якая прадстаўляе чужаземны прыватны капітал, накшталт той 800 міл. пазыкі, якая абясьпечана для Нямеччыны на аснове пляну Доўса. Уся абясьпечаная сума дзеліцца гэтак: Англія, Францыя, Італія і Чэха-Славакія бяруць на сябе кожная па 20% гарантыяў, Бэльгія — $2\frac{1}{2}\%$, Швайцарыя—4%, Гішпанія—5%, Швэцыя—2%, Голяндыя і Данія па $1\,^{1}/_{4}\%$. Агульная сума дае $96\frac{1}{2}\%$, а астаўшаяся частка павінна быць пакрыта іншымі дзяржавамі, якія маюцца далучыцца да конвэнцыі. Пазыка будзе рэалізавацца выпускам Аўстрыяй неабложаных ніякім падаткам доўгасрочных облігацыяў. Дзеля абясьпечаньня пазыкі Аўстрыя абяцалася даць, як залог, увесь чысты даход ад дзяржаўных даходаў і табачнага манаполю.

Але абясьпечваючы крэдытаздольнасьць Аўстрыі, падпісаўшыя конвэнцыю дзяржавы, аднак, паставілі гэткія варункі, якія ўвесь дагавор робяць актам апекі, като-

ры ня згодны з паняцьцямі свабодных адносін. Перш-на-перш дзяржавы дамагаюцца ад Аўстрыі, каб яна зусім ня думала аб палітыцы злучэньня з нейкай дзяржавай, або з групай дзяржаваў. Гэтая засьцярога датычыцца, галоўным чынам, імкненьня большасьці аўстрыйскага насяленьня да злучэньня з Нямеччынай. Падобны пункт устаўлены і ў Вэрсальскі трактат з Нямеччынай. Далей конвэнцыя прадбачыць два роды кантролю: у асобе гэнэральнага кантралёра, вызначанага Лігай Народаў, і кантрольнай камісіі з прадстаўнікоў падпісаўшых конвэнцыю дзяржаваў.

Гэнэральны кантралёр, ротэрдамскі бурмістар, др. Цымэрман, мае вельмі шырокія паўнамоччы, ад яго залежыць перадача часткамі ў распараджэньне аўстрыйскага ўраду тых сум з усей грашовай пазычкі, якія ён прызнае неабходнымі дзеля аздараўленьня фінансаў і народнай гаспадаркі. Ён мае дагляд за правядзеньнем той праграмы рэформы, якую Аўстрыя, згодна з пратаколам абавязвалася правясьці яшчэ раней, чымся адтрымала ўсе пазычаныя грошы.

Кантрольная камісія ўстанаўляе варункі пазычкі, срокі платы і процанты. Яна мае права дамагацца ад дзяржавы справаздачы з тых дзяржаўных даходаў, якія павінны абесьпячаць пазычку.

Апрача гэтых, беспасрэдна зьвязаных з пазыкай, варункаў, конвэнцыя налажыла на Аўстрыю яшчэ іншыя абавязкі. Яны датычацца абшырнай праграмы фінансавых рэформаў, устанаўленьня раўнавагі дзяржаўнага бюджэту, правядзеньня праз парлямэнт закону, згодна з якім кожны ўрад, які дайдзе да ўлады ў працягу двух гадоў, мусіць мець права, ня пытаючыся згоды парлямэнту, правясьці ў жыцьцё ўсе тыя рэформы, якія на яго пагляд будуць неабходнымі. Урэшце для кантролю над фінансавай палітыкай аўстрыйскага дзяржаўнага банку ўстаноўлена пасада дарадчыка, вызначанага спаміж прадстаўнікоў чужаземных беспасрэдных крэдытораў.

Хаця гэтыя ўсе варункі амаль што не раўназначны для Аўстрыі з утратай дзяржаўнай сувэрэннасьці і незалежнасьці, але Зэйпэлю ня было іншага выхаду, як іх прыняць. Перш за ўсё, ён павінен быў правясьці праз парлямэнт тры законы: 1) ратыфікацыю жэнэўскай конвэнцыі, 2) праграму аздараўленьня фінансаў і 3) закон аб надзвычайных паўнамочч ах для ўраду. Гэты апошні ёсьць зьменай конституцыі, таксама як і жалезнадарожны закон у Нямеччыне, выпрацаваны з пляну Доўса, і дзеля правядзеньня яго трэба было $^2/_3$ галасоў. Палата ў гэты час складалася з 183 дэпутатаў, між якімі было 75 хрысьціянскіх дэмакратаў (партыя Зэйпэля), 69 соцыялістаў і інш. партыі. Соцыялістыя наагул былі проці конвэнцыі, а бяз іх нельга было адтрымаць $^2/_3$ галасоў дзеля надзвычайных паўнамоччаў ураду. Але, каб не перашкаджаць Зэйпэлю ў вялікай справе ратаваньня краю, яны галасавалі за апошні закон. Правёўшы праз парлямэнт патрэбныя законы і адтрымаўшы надзвычайныя поўнамоччы, Зэйпэль з усей энэргіяй пачаў праводзіць свой плян. Ён, перш за ўсё, спыніў друкаваньне папяровых кронаў, якія затрымаліся на курсе 17.000 у адносінах да залатой кроны. Далей, армію вураднікаў, якая даходзіла да ліку 242.000 душ, у працягу $1^1/_2$ года паменшыў на 100.000. Паўзьбежна з гэтым, каб утрымаць раўнавагу бюджэту, павысіў падаткі. Ня гледзячы на гэта, дзякуючы прытоку чужаземных капіталаў і ахвярнасьці насяленьня, прамысловасьць ня ўпала, але павялічылася, дзеля чаго лік безработных, які быў 170.000, ня толькі ня узрос, але навет праз год паменшыўся да 37.000, а цяпер навет яшчэ меншы. Было зроблена скарачэньне дзяржаўных расходаў ува ўсіх галінах. І праз год Аўстрыю не пазнаць. Іноў у сталіцы і на провінцыі закіпеў гандаль і прамысловае жыцьцё. Канцлер Зэйпэль зрабіўся вядомым ува ўсёй Эўропе і на цэлым сьвеце. Яго прыезд летась у Нямеччыну, а пасьля ў Польшчу, быў адным трыумфам. Усе схіляюць галовы перад яго дзяржаўнымі здольнасьцямі і яго спосабы аздараўленьня фінансавага і эканамічнага жыцьця зрабіліся прымернікам для дзяржаваў, перажываўшых гэткі самы крызыс. *N.*

# Палітычная хроніка.

### У Польшчы.

У адказ на інтэрпэляцыю пасло ў Беларускага Клюбу аб няпрыманьні тэлеграмаў на беларускай мове, Міністар Гандлю і Прамысловасьці ў паразуменьні з Міністрам Унутраных Справаў, пераслаў на рукі Маршалка Сойму пісьмо з выясьненьнем, што няма ніякае забароны прымаць тэлеграмы на беларускай мове, пакольві яны напісаны лацінскімі літарамі; а вураднік які адмовіўся прыняць тэлеграму на гэтай мове, пацягнены да адпавядальнасьці, павучаючы аднача сна паштова-тэлеграфныя ўстановы, каб прымалі тэлеграмы, зрэдагованыя пабеларуску і напісаныя лацінскімі літарамі.

У складзе ўраду адбыліся гэткія зьмены: міністрам унутраных справаў замест пайшоўшага ў адстаўку п. Гюбнэра, назначаны п. Кірыла Ратайскі, п. Ст. Тугут, назначаны міністрам без партфэля, п. Антоні Жылінскі— міністрам справядлівасьці і пан Францішак Сокаль—міністрам Працы і Грамадзкае Апекі.

17-XI закончылася міжміністэрская нарада па пытаньню аб компэтэнцыі *крэсовых* ваяводаў. Яны будуць мець права выдаваць загады ўсялякім установам, не паразумяваючыся з адносным міністэрствам.

У блізкіх да Мін. Унутран. Справаў кругох ходзіць чутка, што былы міністар працы і грамадзкае апекі пан Дароўскі мае быць назначаным на пасаду люблінскага ваяводы.

### За граніцай.

Як тэлеграфуюць з **Бэрліну**, корэспондэнт газэты „Berl. Tagebl.", прыязна настроены да савецкага ўраду, паведамляе аб тым, што сярод расейскага сялянства пачалося бражэньне на грунце нездаволеньня уладаю бальшавікоў.

32-ая сэсія **Рады Лігі Народаў** пачнецца ў Рыме 8-га сьнежня. Праграма гэтае 5-ае і апошняе ў бягучым годзе сэсіі Лігі ўжо устаноўлена; ў яе ўваходзіць рад пытаньняў і, паміж іншым, выпаўненьне рэзалюцыяў, прынятых у верасьні ў **Жэнэве**.

Газэты пішуць, што вагабіты ў **Гэджасе** пацярпелі цяжкае паражэньне. Войскі гэджаскага караля Алі, якія цяпер вядуць наступ на вагабітаў ў кірунку **Мэкі**, адтрымалі з Эўропы 5 танкаў і 2 аэропляны.

У **Францыі** былы прэзыдэнт Мільеран стварае опозыцыю проці прызнаньня савецкага ўраду.

У **Амэрыцы** 15.XI мела адбыцца затапленьне крайсэра „Вашынгтон" згодна з пастановаю вашынгтонскае конвэнцыі аб разбраеньні.

У **Даніі** парлямэнт пачаў абгаварваць проект аб разбраеньні. Консэрватары й сялянская партыя выказаліся проці законапроекту, адкідаючы разам з тым проект рэфэрэндуму па гэтым пытаньні. Радыкалы выказаліся за проект. Можна спадзявацца, што ён будзе прыняты парлямэнтам.

Паводлуг вестак з Канстантынопаля, турэцкае войска ў **Мосульскім** вокрузе выведзена за лінію, устаноўленую Лігаю Народаў.

У **Кітайшчыне** пачаліся непаразуменьні паміж заваявальнікам Пэкіну гэн. Фэнгам і манджурскім дыктатарам Чан-Со-Лінам. Магчыма спатычка паміж войскамі абодвух гэнэралаў.

Новы ўрад у **Югаславіі** адмяніў аўтаномію **Харватыі** і **Славеніі**, ўведзеную кабінэтам Давідовіча.

Аг. „Вольфа" паведамляе з **Прагі**, што прызнаньне С. С. Р. Р. **Чэхаславакіяй** адбудзецца не пазьней, як у пачатку студня месяца будуч. году.

Прадстаўніком С. С. Р. Р. у **Альбаніі** назначаны начальнік канцэлярыі ў камісарыяце загранічных справаў Кракавецкі.

15 гэт. лістапада ў **Маскве** пачаліся нямецка-савецкія перагаворы аб гандлёвым трактаце.

ЦИК С.С.Р.Р. пастанавіў, што найбліжэйшы зьезд радаў адбудзецца ў красавіку 1925 году.

У **італьянскім** парлямэнце 15. XI. адбылося галасаваньне даверыя да кабінэту Мусоліні. За ўрад галасавалі 315 фашыстых і лібэралаў, староньнікаў Саляндры, проці ўраду — Джыолітты і яго 6 староньнікаў. Стрымаўся ад галасаваньня Орляндо з 26 дэпутатамі.

Вышэйшы суд у **Альлягабадзе (Індыя)** адкінуў касацыйную жалабу па справе раду асобаў, засуджаных на 4 гады вастрогу за бальшавіцкую пропаганду ў Індыі.

Паводлуг вестак з **Равэнны (Італія)**, падчас спатычкі фашыстых з прадстаўнікамі опозыцыі забіты адзін фашысты і два ранены.

Бюро „Рэйтэр" паведамляе з **Каіру**, што эгіпэцкі прэм'ер Заглюль-паша, пасьля нарады з каралём, уаяў назад сваю адстаўку. У зьвязку з адстаўкаю кабінэту, эгіпэцкі пасол у **Лёндане** таксама падаўся ў адстаўку.

Па ўсёй **Югаславіі** пачалася перадвыбарная кампанія. Пашыч 16.XI сказаў прамову у Белградзе.

# Пяршыня.

Начное неба плакала васеньнім дажджом Скрозь атуляўшую вуліцы мокрую, дажджавую заслону слаба мігцелі агні гарадзкіх ліхтарняў. Брудная вада шумела ў рыштоках, сплываючы каналамі ў гудзеўшую ў сваім вузкім каменчатым карыце Вялейку.

Горад увесь быў мокры, брудны. Вада ды балота хлюпала зусюль: з гары — з неба, зьнізу— з-пад ног праходжых, з бакоў — з-пад звозчыцкіх колаў — зусюль.

— Ну, чорт, хадзі-жа, размазьня, калі табе кажу! Чаго баішся? Пасядзім, абсохнем і пойдзем дамоў. Можна-ж і не заставацца, калі ня хочаш, а гэты дурань баіцца, як... як... дурань нейкі.

Той, каго намаўлялі ўдусьці ўсьці, клічучы дурнем, быў дзяцюк 17 — 19 гадоў, мусі яшчэ са школьнай лавы. Былы зауседы пад уплывам старшага свайго таварыша, стараўся быць ува ўсім да яго падобным. Прыгожы, кволы хлапец ён зайздросьціў свайму таварышу, што той меў чырвоны, блескучы жырам, бульбісты нос і няраз у цішы свайго пакойчыку да болю шчыкаў і сьціскаў свой нос, каб ён прыняў форму „відаўшага віды", на якім неакуратнае, п'янае жыцьцё палажыла сваю пячатку. Навет зайздросьціў свайму старшаму таварышу, што ў яго пачала ўжо прабівацца на галаве лысіна. Няраз у самай таёмнай глыбіні свае душы думаў: „вось хацеў-бы я мець гэткі паношаны від, каб людзі казалі: „о! глянь-це на гэтага! той ужо шмат пасмакаваў жыцьця. Бо— нос яго! — адразу відаць, што шэльма лоўка выпівае, дый лысіна ўжо паяўляецца... Хэ, хэ, ты, гад таўстапузы!".

— Але-ж я не баюся — адказаў ненатуральным голасам, — але мне ня хочацца. Абрыдла мне ўсё гэта. Спаць захацелася...

— Ну, вось табе на! „Спаць захацелася" — дразьніў яго старшы. — Яшчэ няма трэцяй гадзіны ночы, а яму ўжо спаць хочацца! А што-б ты сказаў, калі-б так, як я адзін раз, ня спаў гуляючы пад рад тры ночы! Вось!!

Гэтыя „тры ночы", а асабліва „вось", сказанае аўторытэтным тонам вышэйшасьці, зрабілі сваё дзела.

— Ну, чорт з табой! Пойдзем! — сказаў малодшы і, каб паказаць, што начная цяганіна па норах для яго не пяршыня і зусім яго не палохае, запяяў цынічную, вульгарную песьню.

У мокрай цемры вуліцы голас яго гучэў ненатуральна, фальшыва.

— Ну, ну! ня крычы! — сказаў пападыр. — А то падумаюць, што п'яны й ня пусьцяць.

— А „гэта" ўжо блізка?

— Няўжо-ж ты ніколі ня быў?

— Быў! Але не памятаю, бо тады быў страшэнна п'яны.

Ён зманіў. Ён ведаў, што калі-б прызнаўся, што ня быў, дык даў-бы магчымасьць старшаму выказаць лішні раз сваю над ім вышэйшасьць, а можа навет той пачаў-бы іронічна сьмяяцца...

— Ты ідзі наперад.

### Амністыя ў Грузіі.

З Лёндану адтрыманы весткі, што Грузінскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт абвясьціў амністыю для паўстанцаў за выняткам павадыроў. Тым, хто хоча скарыстацца амністыяй, даецца 15 дзён сроку для павароту на бацькаўшчыну, але паўстанцам, засуджаным на сьмерць, кара замяняецца вастрогам на 10 гадоў.

### Кніга Троцкага.

Троцкі толькі што выпусьціў кнігу пад назовам „Тысяча девятьсот семнадцатый год". У гэтай кнізе ён апісвае бальшавіцкі пераварот. Кніга гэтая віклікала ў „Правде" вострую крытыку. Камуністычны орган заяўляе, што Троцкі, выпушчаючы сваю кнігу, разьлічваў зрабіць з яе гвозд сэзону. У ёй Троцкі публікуе сэнсацыі, якія зьяўляюцца надта няпрыемнаю неспадзяванкаю для камуністычнае партыі.

У далейшым артыкул выстаўляе проці Троцкага абвінавачаньне ў тым, што ён прабуе ажывіць опозыцыю 1923 году, разьбітую рэзалюцыямі большасьці. Ен гэта робіць цяпер, як пісьменьнік, пасьля таго, як опозыцыя ў характары палітычнага дзеяча ня мела ўдачы. Як піша „Правда", кніга Троцкага не дае гісторыі 1917 году. З нячуванай з боку марксістага лёгкасьцю Троцкі саўсім апушчае ролю масы сяброў партыі. Ен піша толькі пра верхні слой камуністых. Пры гэтым яго апісаньне саўсім вольнае і нявернае. У канцы ўсяго ён цьвярдзіць, што ўсе іншыя камуністычныя павадыры не заглядалі далёка ўперад і вадзіліся, і што рэвалюцыя была выратавана Леніным, толькі дзякуючы таму, што Троцкі быў яго супрацоўнікам.

Кніга выклікала вялікае завярушэньне і полеміку сярод бальшавіцкіх вярхоў.

### Прасьледаваньне абшарнікаў.

Камісарыят Земляробства запрапанаваў сваім мясцовым органам срочна выясьніць факты звароту бышым абшарнікам іхніх старых двароў у Бранскай, Смаленскай, Варонежскай і Разанскай губэрнях. Абшарнікі павінны быць зараз-жа выселены, а працаўнікі зямельных аддзелаў, памагаўшыя звароту, аддаиы пад суд.

### Голад у Крыме.

У сьцяпной паласе Крыму корміцца сурогатамі блізу што палова насяленьня, з якога 35 проц. ня маюць навет больш лепшых сурогатаў мякіны і жалудоў, што замяняюцца пучкамі, травою, карою і г. д. Зарэестрована маса асобаў, папухшых ад голаду і 640 выпадкаў сьмерці сярод малалетніх за кастрычнік месяц. Крымскі ЦИК падняў просьбу перад саюзнай радаю народных камісараў і камісіяй Рыкава аб асыгнаваньні да 1 студня 1925 году 300.000 рублёў на падмогу галодным, дзіцячым хатам і на барацьбу з шырока распаўсюджанай трасцаю і паўстаўшаю эпідэміяю галоднага тыфусу.

### На расстрэл і ў ссылку.

У Барнауле выездная сэсія губ. суда разгледжана справа 37 сялян, кіраваўшых сялянскім паўстаньнем у верасьні гэтага году. 12 сялян за забойства партыйных працаўнікоў і вураднікаў засуджаны на расстрэл, а рэшта абвінавачаных—у ссылку, пасьля адсідкі ў вастрозе, ў Якуцкую губэрню. На судзе устаноўлена, што абвінавачанымі былі забіты ў вокрузе пяць вураднікаў сельскае міліцыі, 19 камуністых з нізавых апаратаў партыі і разьнесены два валасныя выканаўчыя камітэты ды некалькі партыйных памешканьняў.

## Навіны ў тры радкі.

— У канцы першае паловы гэтага месяца ў паўночнай Італіі мароз даходзіў да 12 градусаў.

— Швэдзкая акадэмія навук назначыла прэмію Нобэля па літэратуры за 1924 г. польск. пісьмен. Ул. Рэймонту за повесьць „Chłopi".

— У Маскве сканфіскована новая кніга Троцкага па гісторыі бальшавіцкага перавароту.

— Праф. Шэльдон з Нью-Іорку выкрыў танны спосаб дабываць золата з жывога серабра.

— Як аблічана, ў местах Латвіі жыве 590.185 чал., а ў вёсках 1.354.131 чал.

— Бальшавікі Екацерынбург назвалі Сьвердлоўскам у памяць Сьвердлова.

— З пачатковых школаў Тульскае губэрні выкінены творы Льва Толстога, за тое, што зьмяшчаюць у сабе пропаведзь хрысьціянства.

— У Маскве залажылася таварыства „бязбожнікаў — бышых мусульман".

— У Іванава-Вазьнясенску расстралялі нейкага Скавародзіна, абвінавачанага ў тым, што служыў у ахранцы да вайны.

— На востраве Яве адбылося моцнае землятрасеньне. Часьць гарадоў зьнікла з зямлі. Загінула 300 чал.

## Жыцьцё провінцыі.

### Вясковы голас.

Нам пішуць з Нясьвіскага павету:

— Павет наш амаль што ня выключна беларускі, толькі дзе-ня-дзе пападаюцца дробныя фальваркоўцы-каталікі, якія хаця-ж і ня знаюць польскае мовы і гавораць таксама, як і мы ўсе грэшныя беларусы, але няма ведама дзеля чаго лічаць сябе палякамі. Дык зусім зразумела тое агульнае зацікаўленьне й задаваленьне, з якімі былі прыняты тут весткі аб правядзеньні праз Сойм новых законаў аб мовах і школах.

Здавалася нам, што пачынаецца новая эра ў адносінах палякоў да братняга ім беларускага народу. Усе мы спадзяваліся, што гэтымі законамі робіцца толькі першы крок у кірунку аздараўленьня нашага крэсовага жыцьця і што ад гэтага часу палітыка Польскага Ураду пойдзе ўжо іншым шляхам, а ласьне тым шляхам, які, нарэшце, павінен прывясьці ня толькі да фізычнага, як гэта ёсьць цяпер, але да запраўднага культурнага і моральнага аб'яднаньня ўсходніх крэсаў з рэштай Польскіх зямель. Бачылі, што робіцца ўжо нейкі прасьвет у нашым шэрым беларускім жыцьці; што толькі было тут у нас нацыянальна - сьвядомае, дык пачало весялей углядацца ў заўтрашні дзень. Па вёсках сяляне пачалі рабіць прыгавары аб адчыненьні родных беларускіх школ. Здавалася, што далей усё ўжо пайдзе добра.

Але, праходзіць час і, як гэта ні цяжка, а прыходзіцца прызнацца, што ўсё гэта нам толькі здавалася. Штодзеннае жыцьцё кажа, што ўсё застаецца падаўнейшаму. Як было звычайна, і дагэтуль законы, прынятыя Соймам, у жыцьцё не праводзяцца, а застаюцца толькі на паперы. Ня толькі няма мовы аб адчыненьні беларускіх пачатковых школ, але нават і гаварыць да вураднікаў пабеларуску можна толькі тагды, калі дакажаш сваё грамадзянства й нацыянальнасьць.

Варункі нашага крэсовага жыцьця за апошні час ня толькі не палепшалі, а нават значна пагоршалі. Не адтрымаўшы на дзеле таго, што забясьпечвае нам закон, мы затое атрымалі тое, што ніякім законам пакуль што яшчэ не прадугледжана. Замест школаў і іншага далі нам так званы... выняткова стан. Дзіўнай здаецца нам тут тая дыскусія, якая ў апошнія дні йдзе на шпальтах польскае прэсы па пытаньню аб патрэбнасьці выняткоўага стану на крэсах. Дзіўнай, бо ўжо колькі тыдняў мінула, як мы **фактычна** маем гэты самы выняткоўы стан. Фактычна на крэсах спынены амаль што ня ўсе констытуцыйныя гарантыі. Так, хаця няма аб гэтым ніякага распараджэньня, але ўсе ў нас добра ведаюць, што хадзіць пасьля 9 гадзіны ўвечары забаронена і што пасьля гэтай гадзіны цягнуць на пастарунак. Прыватныя кватэры займаюцца пад памешканьні для паліцыі й жаўнераў. Зноў пачалі ганяць у падводы. Па вёсках ідуць бязупынныя арышты. Арыштоўваюць ужо не дзесяткамі, а нават соткамі і, як гэта звычайна бывае, сярод арыштованых больш бывае нявінных, чымся віноўных. Па хатах сялян блутаюцца нейкія „гарохавыя" тыпы, якія намаўляюць хлопцаў ісьці разам з імі заграніцу да бальшавікоў і калі знойдуць лёгкаверных, дык вядуць іх — толькі не заграніцу, а проста ў вастрог. Брат брату ўжо ня верыць, бо бывае, што, ў часе „энэргічных" дапросаў, свой пачынае данасіць на свайго і кажа ня толькі тое, што запраўды было, а навет і тое, чаго ніколі ня было. Вось далёка яшчэ ня поўны абразок нашага сучаснага крэсовага жыцьця. Вось тыя спосабы, якімі Польскі Урад думае залячыць крэсовую хваробу.

Чаго-ж патрэбна яшчэ? Якога яшчэ горшага выняткоўага стану дамагаюцца для нас, беларусаў, польскія рэакцыйныя палітыкі? Няўжо-ж гэтыя палітыкі задаліся мэтай зрабіць жыцьцё на крэсах зусім немагчымым?

З болем ў сэрцы глядзяць на вынікі гэнае няўдалае крэсовае палітыкі Польскага Ураду ўсе тыя беларусы, якія хацелі, дый цяпер яшчэ не пакідаюць думкі аб брацкіх адносінах з польскім народам. Да тых, хто цяпер трымае ў сваіх руках лёс Польскае Дзяржавы зьвяртаюцца яны: апамятайцеся пакуль яшчэ час. Няўжо ж вы ня бачыце, што сваею палітыкаю робіце найлепшы грунт дзеля будучых бандыцкіх нападаў, да якіх рыхтуюцца бальшавікі на вясну.

Гэта-ж вялікая небясьпека пагражае і вам і нам!

**Каліноўскі.**

## Тутэйшая хроніка.

= **Напад на Беларуск. Грамадз. Сабраньне.** 13 лістапада г. г. у 11 г. ночы на Беларускі Клюб быў зроблены напад.

Група моладзі, азброеная ў кіі і рэвальвэры, зьбіўшы з ног пастаўленую каля ўваходу прыслугу і абрабаваўшы кантралёра, ўварвалася ў памешканьне клюбу.

Нападаўшыя пачалі граміць памешканьне, ламаючы мэблі...

Калі на гэты гармідар выйшлі старшыні Клюбу, дык нападаўшыя кінуліся на іх і некаторых пабілі.

Вызваная адміністрацыяй Клюбу паліцыя арыштавала 10 асоб, а больш як 30 уцяклі.

Выясьнілася, што гэты напад быў арганізованы „камсамольцамі" па дырэктывах з Менску.

= **Вільня на шостым месцы.** Статыстычнае бюро пры Камітэце Усяпольскай Перапісі апублікавала, што па ліку насяленьня Вільня займае шостае месца Пасьля Варшавы ідзе Лодзь, Львоў, Пазнань, Кракаў, Вільня і Катавіцы.

= **Дарагоўля.** Цана на малако ізноў паднята на 33 проценты.

= **Радыятэлефон.** За апошнія два месяцы ў Вільні пастаўлена 8 радыятэлефонных апаратаў. Найбольшы апарат мае таварыства тэхнікаў.

= **Конфіскацыя жыдоўскае газэты.** Загадам камісара ўраду на м. Вільню сконфіскованы нумар жыдоўскае газэты „Der Tog" за 15 гэтага лістапада. Прычынаю конфіскацыі было зьмяшчэньне дэклярацыі паслоў, выйшаўшых з клюбу „Вызваленьня".

= **Конфіскацыя беларускіх газэт.** Загадам камісара ўраду на м. Вільню конфіскованы № 21 газэты „Сялянская Праўда" за 16 гэт. лістапада, а таксама № 33 „Кгупісу" за той самы дзень, якая зьмясьціла артыкул „Яшчэ аб школах".

= **Фальшывыя двузлатоўкі.** Зьявіліся ў абегу фальшывыя банкноты вартасьцю ў 2 злотыя. Іх нятрудна адрозьніць ад праўдзівых грошай: нумарацыя надрукована чорнаю хварбаю іншае якасьці, чымся ў сапраўдных білетах; форма цыфраў іншая і надруковані яны цясьней, надпіс „Bank Polski, dwa złote"—расплыўчаты, ў іншых надпісах літары вышэй; патрэт Касьцюшкі саўсім інакшы. На адвароце — крыху іншы фон, ды іншыя неакуратнасьці рысунку. Блакітная хварба на сапраўдных грошах мае саўсім іншы адценак.

## Усячына.

### 25 тысяч франкаў за тое, што мелі шмат дзяцей.

Францусная акадэмія выдала 25 тысяч франкаў з фонду, прызначанага дзеля награды многадзетных сем'яў, нейкай п. Дэбрэй у Сэнтылер дэ-Врэст у Вандэі, ў якое дзесяцёра дзяцей, сярод якіх чацьвёра блізьнят, нарадзіўшыхся ў 1915 годзе.

### Прытулак для зьбяднеўшых мільянэраў.

Амэрыканец Андрэй Фрыдман пакінуў вельмі вялікія грошы на стварэньне прытулку для зьбяднеўшых мільянэраў. Фрыдман, які сам быў некалі бедным і нажыў вялізарную маемасьць, праз усё жыцьцё баяўся ізноў зрабіцца жабраком. Дзеля гэтага ён і пастанавіў прыйсьці на падмогу бышым багатыром, страціўшым сваю маемасьць. Прытулак разьлічаны на 20 асоб, ён будзе абстаўлены раскошна, жыхары яго могуць жыць паводлуг свайго густу, запрашаць гасьцей і нічога не плаціць. Але яны павінны пакінуць гэты прытулак, калі якім-нібудзь чынам ім удасца ізноў зрабіцца багатымі.

### Як у байцы.

Толькі ў Амэрыцы можна спадзявацца падобных сэнсацыяў. Газэты пішуць, што ў мясцовасьці Хустос, штату Тэхас, нейкі Фрэд Люн пераскочыў са свайго аэропляну ў іншы, дзеля таго, каб выратаваць ад сьмерці артыстку Разальлю Гордон. Яна павінна была „ўпасьць з вобалакаў" з парашутам на аэродром, гдзе сабраўся тысячны натоўп. І раптам, лятаўшы недалёка, Люн убачыў, што парашут не распасьцёрся, бо заблуталіся вяроўкі. У крытычны момэнт Люн скокнуў са свайго аэропляну ў аэроплян артысткі і схапіўшы рукою вяроўку парашута пасьпеў уцягнуць Разальлю Гордон у яе апарат, з якім плаўна спусьціўся на аэродром на зьдзіўленьне публікі.

Рэдактар - Выдавец **Язэп Салавей.** Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.